# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

18 верасня 1991 г. СЕРАДА

№ 183 (21711)

Цана 20 кап.










Працуе нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР дванаццатага склікання.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

# БУДЗЕМ СПЯШАЦЦА ПАВОЛІ

## З нечарговай шостай сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Не ведаем, як хто, а мы па агульнаму настрою дэпутатаў пад час сесіі адзначылі: пасляпутчаўскія падзеі істотна адбіліся на абстаноўцы ў зале. Узяць хаця б адзін невялікі штрых: калі раней на абмеркаванне пытання аб прамой трансляцыі патрабавалася даволі багата часу, калі само абмеркаванне ператваралася нярэдка ў драматычныя дэбаты, то зараз на прыняцце пастановы пайшлі лічаныя хвіліны — наступ на галоснасць яшчэ нікому не дабаўляў аўтарытэту. Нарэшце, гэта зразумелі ўсе.

Папярэдняя сесія, як мы памятаем, завяршылася пераканаўчай перамогай дэмакратычна настроеных дэпутатаў, іх лік, мяркуючы па выніках галасавання па прынцыповых пытаннях, істотна вырас, пайшоў працэс паступовага адыходу ад шчыльнай абароны карпаратыўных інтарэсаў на карысць нашым агульным. Ці набудзе гэты працэс тэндэнцыю да ўстойлівасці, да замацавання цяпер, калі прадстаіць паглыбіць, канкрэтызаваць, чотка і дакладна акрэсліць усе пытанні, звязаныя з фарміраваннем нашай дзяржаўнасці?

Дэбаты па фарміраванню парадку дня сесіі паказалі: так, наш парламент вучыцца майстэрству кампрамісаў, майстэрству абменьвацца аргументамі, а не толькі палітычнымі выкладкамі, часам проста зневажаннямі. Калі на некаторых папярэдніх сесіях як не ўсе прапановы апазіцыі дружна забалатоўваліся націсканнем кнопак, то на цяперашняй многія яе напрацоўкі знайшлі падтрымку.

Так, напрыклад, пасля кароткай, але пераканаўчай аргументацыі лідэра апазіцыі Зянона Пазняка на карысць падпарадкавання мытнай службы (таможні) рэспубліцы, а не саюзным органам, толькі тры дэпутаты прагаласавалі супраць уключэння гэтага пытання ў парадак дня, а 289 падтрымалі прапанову.

Логіка, якой кіраваліся дэпутаты пры зацвярджэнні парадку дня, такая: суверэнная дзяржава павінна мець усе атрыбуты, якія б сведчылі аб яе незалежнасці. Не ўсе адразу ж зразумелі гэту логіку. Так, многія дэпутаты выказвалі на сесіі свае перасцярогі: ці не занадта шмат палітычных пытанняў у той час, калі жыццё людзей пагаршаецца, калі выбаршчыкі задаюць пытанні — як жыць далей, але адказаў не знаходзяць?

А дэпутаты тым часам змяняюць назвы і гербы...

І ўсё ж, напэўна, ёсць здаровы сэнс у тым, што нечарговая, а значыць, хуткаспелая, непрацяглая сесія не ўсклала на сябе цяжар эканамічных праблем, тым самым засцярогшыся ад непрадуманых рашэнняў. З другога боку, хіба абарона нашых межаў, той маёмасці, якую кінуліся вывозіць з рэспублікі саюзныя ведамствы, а таксама наладжванне міжнародных узаемаадносін — не эканоміка?

Тыдзень назад, пасля пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета, на якім абмяркоўваўся парадак дня гэтай сесіі, мы сустрэліся з лідэрам апазіцыі З. Пазняком. Нягледзячы на тое, што цэлы шэраг прапаноў, якія вылучалі дэпутаты ад БНФ, не быў прыняты Прэзідыумам, Зянона Станіслававіча не дужа засмучаў гэты факт.

— Мы паўторна ўнясём усе гэтыя пытанні на сесіі,— коратка пракаменціраваў ён тое, што адбылося на пасяджэнні Прэзідыума, адначасова зазначыўшы, што галоўная прычына няўступлівасці кансерватараў —у жаданні вывесці з-пад удару былых высокіх кіраўнікоў КПСС.

Першы дзень работы сесіі паказаў, што настойлівасць апазіцыі была ўзнагароджана. Раней адхіленыя пытанні, — аб Генеральным пракуроры, аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю, аб знешнепалітычнай дзейнасці парламента — усё ж будуць разглядацца дэпутатамі на гэтай сесіі. Але святкаваць поўную перамогу апазіцыі наўрад ці даводзіцца, бо найбольш прынцыповыя з прапанаваных імі пытанняў,— аб роспуску структур КПСС — КПБ, аб Старшыні Савета Міністраў і членах урада БССР, — не набралі патрэбнай колькасці галасоў. Такога разгортвання падзей можна было чакаць: наіўна спадзявацца, што большасць у парламенце, якая яшчэ ўчора была настроена пракамуністычна, сёння так рэзка зменіць погляды, што пачне самой сабе капаць яму. Зрэшты, у зацяжныя дыскусіі аб лёсе КПБ ці даверы да цяперашняга ўрада прадстаўнікі камуністычнай большасці не ўступалі. І галасавалі яны, на нашу думку, не кнопкамі, а.... ігнараваннем галасавання. Па лічбах на табло было добра бачна: як толькі справа даходзіла да найбольш прынцыповых пытанняў (у прыватнасці, будучыні КПБ), колькасць галасуючых рэзка зніжалася і рашэнне ў выніку не прымалася. Дарэчы, многае высвятліцца пры знаёмстве з вынікамі паіменнага галасавання.

Прыемна было чуць, што некаторыя дэпутаты, з вуснаў якіх раней не даводзілася чуць беларускую мову, на гэтай сесіі загаварылі па-беларуску. Гэта робіць гонар дэпутатам Булахаву, Козіку і некаторым іншым. Шкада толькі, што Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч пакуль што не спяшаецца выканаць абяцанне, якое ён улетку даваў дэлегатам II з'езда ТБМ. Многія вельмі спадзяваліся, што з восені прэм'ер-міністр загаворыць па-беларуску. Зрэшты, восень толькі пачалася...

«Мы будзем спяшацца паволі», — некалькі разоў зазначаў С. Шушкевіч, пагаджаючыся з думкай А. Вярцінскага аб тым, што не варта паспешліва прымаць важныя рашэнні. Бадай, гэтыя словы маглі б стаць эпіграфам увогуле да стылю работы нашага парламента, які хоць і стараецца нагнаць упушчанае, — усё ж ідзе па дарозе, якую даўно пратапталі нашы блізкія суседзі.

У другой палове дня дэпутаты пачалі абмеркаванне пытанняў парадку дня. На пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі былі вылучаны чатыры кандыдатуры: С. Шушкевіча, Г. Карпенкі, В. Кебіча і У. Заблоцкага. Кандыдаты выступілі са сваімі праграмамі, адказалі на пытанні дэпутатаў. Самаадводаў, як чакалася, ніхто не ўзяў, і ўсе яны былі ўключаны ў бюлетэні для тайнага галасавання. Яго вынікі падліковая камісія паведаміла позна вечарам.

***

**Улічваючы, што многія нашы чытачы, сярод якіх нямала і членаў кампартыі, зараз устрывожаны яе лёсам, прапануем кароткае інтэрв'ю з Анатолем Малафеевым, узятым падчас сесіі.**

— Каб правільна ацаніць наша сённяшняе становішча, увесь ход падзей, трэба, перш за ўсё, адказаць на пытанне: а што адбылося ў жніўні? Усё астатняе з'яўляецца складаемым гэтай хвалюючай тэмы. Адбыўся так званы «дварцовы пераварот», не больш і не менш. Прычым ён ажыццёўлены бліжэйшымі памочнікамі Прэзідэнта. На чале яго стаяў віцэ-прэзідэнт — не чалавек з боку, не Іван бязродны, які здолеў прарвацца да ўлады. Ды і ўся астатняя кампанія даволі знатная. Таму спробы звязаць Кампартыю, у прыватнасці, КПБ, з гэтымі падзеямі выглядаюць абсурдна, недарэчна, нячыста, яны праследуюць дакладныя палітычныя мэты. Якія? Прадставіць 670 тысяч камуністаў у ролі нейкіх злачынцаў, змоўшчыкаў. Лічу, што гэта недапушчальна. Мы ідзём — цяжка, супярэчліва — да дэмакратычнай дзяржавы, і калі станем ісці да мэты такімі метадамі, то грамадства можа апынуцца ў тым жа стане, як у самыя цяжкія перыяды нашай гісторыі. Зноў давядзецца залечваць раны— цяжка, балюча. Зноў увойдзем у паласу пошуку вінаватых, прыцягнення да адказнасці тых, хто не меў ніякага дачынення да супрацьпраўных дзеянняў.

Хацелася б, каб гэтага не здарылася. Выйсці з найцяжэйшай сітуацыі — распад Саюза, марнеючая эканоміка, пагаршэнне жыцця людзей — можна толькі на грунце аб'яднання. Кошт самых неабходных прадуктаў харчавання — бульбы, агародніны — дасягнуў неймаверных велічынь. Бульба на

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ФАКТ

Народныя дэпутаты Прыднястроўя падпісаліся пад зваротам да парламента і Прэзідэнта Малдовы. У дакуменце, у прыватнасці, прапануецца «прызнаць рэальнасць існавання Прыднястроўскай Малдаўскай ССР і неадкладна прыступіць на афіцыяльным узроўні да перагавораў па ўсяму комплексу праблем».

***

**Другі тыдзень «знемагаюць» 50 рэфрыжэратараў з мясам з Італіі на чыгуначнай станцыі Уктус. Разгрузка ідзе сяк-так — па два — чатыры вагоны ў суткі, хоць у гарадскіх магазінах мяса не было шмат месяцаў. У аб'яднанні «Свярдлоўскмясаагрaпром», а ён атрымальнік грузу, паскардзіліся на... нерытмічнасць паставак. Аб гэтым паведаміла газета «Уральский рабочий».**

***

Кожнай сям'і трох загінуўшых у барацьбе з мафіяй оперупаўнаважаных Маскоўскага крымінальнага вышуку пералічыў па 30 тыс. рублёў дабрачынны фонд газеты «Москвичка». Ён заснаваны гэтым штотыднёвікам і малым прадпрыемствам «СКІМ».

***

**Рэкордная колькасць краін — 134 — мае намер выставіць свае футбольныя каманды на чэмпіянат свету 1994 года, фінал якога адбудзецца ў ЗША, паведамляе карэспандэнт агенцтва Рэйтэр з Лос-Анжэлеса. Папярэдняе «дасягненне» (у 1990-м годзе) было 123.**

***

Мсціслаў Растраповіч, сусветна вядомы віяланчэліст і дырыжор, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага сімфанічнага аркестра ЗША аб'явіў аб стварэнні фонду Растраповіча-Вішнеўскай, сродкі з якога пойдуць на будаўніцтва «сучаснага, цалкам абсталяванага ўсім неабходным дзіцячага шпіталя ў Маскве».

***

**Праграма прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Казахстане апублікавана ў рэспубліканскіх газетах. Яе першы этап разлічаны на 1991-92 гады і будзе грунтавацца на купонным механізме прыватызацыі. Ужо да першага кастрычніка будуць арганізаваны камісіі ў мясцовых Саветах па вызначэнню сум, належачых грамадзянам купонаў. Іх колькасці для чалавека, які мае 21 год працоўнага стажу, дастаткова для выкупу сярэдняй па кошту кватэры ці дома.**

***

Адрадзіць традыцыі рускай страхавой справы маюць намер камерсанты Санкт-Пецярбурга. Яны пачалі арганізацыю сеткі страхавых кампаній для падтрымання новых рынычных структур з улікам фарміравання зоны свабоднага прадпрымальніцтва. Зона ахопіць тэрыторыю паўночна-заходняга рэгіёна Расійскай Федэрацыі, уключаючы і горад Выбарг.

ФАКТ

**Асабіста ў мяне ніколі не ўзнікала праблем са здачай гісторыі КПСС ці ўсялякай іншай гісторыі ва універсітэце. Мая школьная настаўніца, якая дала мне такія моцныя веды па гэтых прадметах, два ці тры гады назад за плённую працу ў выхаванні падрастаючага пакалення атрымала ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Год назад на вечары сустрэчы выпускнікоў нашай школы яна сказала: «Я вас вучыла хлусні».**

# Міністэрства адукацыі просіць задумацца

Гэта цяжка — асэнсаваць па-новаму, інакш свой погляд на нашу гісторыю. Перарабіць па вялікаму рахунку трэба самога сябе. Мусіць, таму намеснік міністра адукацыі БССР Васіль Стаўроў на сваёй прэс-канферэнцыі прасіў не прыспешваць з поўнай перабудовай грамадазнаўцаў. Яшчэ два гады назад ён выступіў увогуле за прыпыненне выкладання навук, звязаных з гісторыяй партыі, СССР і г. д.

Гэты крок застаецца актуальным і цяпер. Міністэрства адукацыі прызнала: навукова-метадычнай базы для грамадска-палітычных курсаў практычна няма. На даны момант не існуе ніводнага падручніка, які задавальняў бы навуковаму, без ідэалагізаванага шалупіння, падыходу да гістарычных працэсаў у нашай краіне. Больш таго, В. Стаўроў упэўнены, і трэба сказаць не без падстаў, у тым, што любы падручнік па грамадска-палітычнай дысцыпліне, напісаны ў нашы дні, будзе праз некаторы час зноў перапісвацца. Як будзе мяняцца і аб'ём гістарычных дысцыплін у вучэбным працэсе інстытутаў і універсітэтаў.

ных дысцыплін. Не трэба блытаць гісторыю Беларусі з гісторыяй КПЗБ ці БНФ.

Па-трэцяе, прафесіянальны ўзровень выкладчыцкага саставу застаецца нездавальняючым. У сувязі з гэтым міністэрствам адукацыі прымаліся і прымаюцца валявыя рашэнні, каб «заганяць» у інстытуты павышэння кваліфікацыі, дзе ёсць шмат патрэбных напрацовак, выкладчыкаў былых марксізмаў, ленінізмаў і г. д. Чаму заганяць? Таму што вучоба ў такіх інстытутах прымушае мяняць дзесяцігоддзямі сфарміраваны падыход да выкладання свайго прадмета. Студэнт мае права мець любыя палітычныя перакананні, свой погляд на мінулыя і сённяшнія гістарычныя працэсы.

Цярпімасць павінна нарэшце ўзяць верх у выкладанні ўсіх грамадска-палітычных навук.

Усяго ж грамадазнаўцаў у ВНУ рэспублікі 1.450 чалавек, у сярэдніх навучальных установах — прыблізна васемсот. Вядома, што адбываецца працэс скарачэння гэтай катэгорыі выкладчыкаў. У данай сітуацыі вучоныя саветы універсітэтаў і інстытутаў, кіраўнікі

Цяпер жа «ў сувязі з новай сітуацыяй» Міністэрства народнай адукацыі пакуль што фактычна займаецца расстаноўкай кропак над «і», якіх безліч у выкладанні многіх гуманітарных дысцыплін.

Па-першае, неабходна хутчэйшае змяшчэнне акцэнту з вывучэння гісторыі Савецкага Саюза на вывучэнне нацыянальнай гісторыі Беларусі і ўвядзенне яе ў якасці абавязковай дысцыпліны ва ўсіх навучальных установах. Аб становішчы спраў у гэтым плане сведчыць такі факт: да выпуску рыхтуецца падручнік пад назвай «Гісторыя БССР (савецкі перыяд)».

Па-другое, патрэбна цалкам выключыць усялякі ідэалагічны ціск з усіх гуманітар-

прафтэхвучылішчаў і тэхнікумаў павінны задумацца аб перапрафіляванні пэўнай часткі грамадазнаўцаў. Вучоныя саветы таксама павінны самі вырашыць, якія прадметы набудуць статус «дзяржаўнага экзамена», а якія — факультатыўнага вывучэння. Увогуле, тут цяжка прапанаваць нешта новае. Ва ўсім свеце практыкуецца выбар навучальных курсаў студэнтамі ў пачатку навучальнага года. У гэтай сітуацыі выжывае, вядома, мацнейшы выкладчык, які можа прапанаваць асабісты погляд і глыбокія веды па свайму прадмету. Міністэрства адукацыі ў асобе В. Стаўрова паабяцала шырока рэкамендаваць падобную практыку ўсім сваім установам.

Што выбіраць: палітэканомію ці эканамічную тэорыю і эканамічнае выхаванне — міністэрства нікому навязваць не збіраецца. Выбар — за вучоным саветам.

Здаецца, універсітэты і інстытуты нарэшце пачынаюць пакрысе ўсведамляць сваю значнасць у культурным жыцці рэспублікі, як гэта было, напрыклад, з універсітэтамі ў сярэдневякоўі.

На вучоным савеце Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна ўжо абмяркоўвалася пытанне аб перайменаванні універсітэта. Праўда, з падобнымі ініцыятывамі да Міністэрства адукацыі БССР пакуль што ніхто не звяртаўся.

Хоць, здаецца, над гэтым павінны былі б задумвацца прафесары і студэнты педінстытута імя М. Горкага, які мае гонар так называцца таму, што некалі, едучы з Парыжа, заснавальнік сацрэалізму зрабіў прыпынак у Негарэлым. Выклікаюць здзіўленне таксама назвы тэхналагічнага інстытута, інстытута народнай гаспадаркі. Не ясна, што зрабілі для гаспадаркі Беларусі Кіраў, Куйбышаў.

Але, вядома, перайменаванне і скасаванне — не галоўнае на сённяшні дзень для беларускай адукацыі. Максімальна хутка асэнсаваць агульначалавечыя каштоўнасці ў выкладанні сваіх прадметаў — задача не аднаго былога «марксіста-ленінца».

А. КОКТЫШ.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

## НОВАЯ КАНЦЭПЦЫЯ РАДЫЁФІКАЦЫІ?!

**БРЭСТ. (А. Палонскі). Так, існуюць сёння сістэмы касмічнай сувязі. Аднак побач з ёй жывуць-пажываюць і рэліктавыя спосабы перадачы інфармацыі: уся наша краіна пакрыта сеткай радыётрансляцыйных ліній — драўляныя апоры і пара правадоў на іх, што нясуць радыёпраграмы да слухачоў. Мы адзіныя ў свеце маем такую радыёсетку.**

Прыкмета таталітарнай дзяржавы? А хіба не!? Так, укараняецца шматпраграмнае вяшчанне. Аднак зноў жа — па правадах. Землекарыстальнікі на вёсцы нясуць вялізныя страты ад драўляных апор на палях: каля іх не ўзарэш і не пасееш.

І вось у Брэсцкай вобласці першымі ў краіне прапанавалі новую канцэпцыю дастаўкі радыёпраграм у кватэры. Сканструяваны і запускаецца ў масавую вытворчасць вельмі танны радыёпрыемнік на ўльтракароткіх хвалях. Ствараецца сетка радыёперадатчыкаў, для гэтых мэт будуць задзейнічаны і былыя «глушылкі». Інакш кажучы, тут маюць намер у бліжэйшы час абыходзіцца без паветранай радыёсеткі.

Многія гаспадаркі, каб ліквідаваць апоры радыётрансляцыйных сетак на палях, купяць для вяскоўцаў прыёмнікі. І гэта будзе эканамічна выгадней, чым аборваць на палях кожны слуп.

## ВАШ МЁД—НАШ ДЗЁГАЦЬ

**МАГІЛЁЎ. (А. Гаршкоў). Два раскошныя аўтобусы фірмы «Мерседес-Бенц» праехалі ў сераду раніцай па вуліцах старога горада. Яны прывезлі 80 магілёўскіх школьнікаў, якім пашчасціла на працягу 20 цёплых дзён адпачываць у Германіі.**

Дамоўленасць аб такіх паездках была дасягнута паміж магілёўскім і патсдамскім мэрамі ўлетку. Нямецкі бок выказаў жаданне штогод прымаць у сябе дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Усе расходы бяруць на сябе ўлады Патсдама.

Школьнікі былі разбіты на дзве групы: старэйшыя адпачывалі ў Патсдаме, а меншым пашчасціла жыць на маляўнічым востраве Узэдом, што на поўначы Германіі. Мора, сонца, каларыйная яда, апельсіны і бананы, сокі, экскурсіі па начному гораду, чароўныя мелодыі аргана ў касцёле, мясцовы тэатр лялек, сустрэчы з нямецкімі аднагодкамі і развітальны палёт над вострабам на спартыўным самалёце, — ніякі час не сатрэ з памяці ўражанні аб цудоўных днях, праведзеных за мяжой.

Не забудзецца, відаць, і тое, як «радасна» сустрэла іх родная зямля — адмовай прадаставіць месцы для начлегу ў брэсцкім інтэрнаце. Выручылі ўсё тыя ж нямецкая ветлівасць з кухняй, прыбіральняй і двума тэлевізарамі ў салоне. Дробязь, канешне. Для нас. А немцаў гэта непрыемна ўразіла. Невядома, ці з'явіцца ў іх жаданне дарыць сваю шчодрасць наступным летам нашым дзецям, калі самі мы адносімся да іх з такой абыякавасцю.

## ЯШЧЭ РАЗ АБ ЖЫВОЙ ВАДЗЕ

ЖАБІНКА. **(Ю. Фёдарава).** Крыніцы з чыстай вадой, на жаль, становяцца рэдкімі ў гэтых месцах. Падземны водны басейн, з якога вада пастурае ў калодзежы, забруджаны. Такі вывад можна зрабіць па выніках работы мясцовай санстанцыі. Практычна ва ўсіх калодзежах раёна пітная вада бактэрыялагічна забруджана звыш нормы. Не адпавядае яна норме і ў многіх водаправодах.

Крытычны стан падземных вод у рэгіёне — вынік нерацыянальнага гаспадарання на зямлі.

## З ЛОНДАНА Ў НЬЮ-ЙОРК— ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

**МІНСК. (У. Цасюк).** У гэтыя вераснёўскія дні рэспубліка сустракае буйную міжнародную аўтаэкспедыцыю, якая вось ужо на працягу двух тыдняў праходзіць па тэрыторыі краін — удзельніц другой сусветнай вайны.

Аўтапрабег стартаваў у Лондане, ззаду засталіся ўжо Дзюсельдорф, Мюнхен, Варшава. З 16 па 20 верасня экспедыцыя будзе знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. 18-га верасня на плошчы Перамогі ў Мінску адбудзецца мітынг. У праграме ўдзельнікаў аўтапрабегу (а іх 55 чалавек) азнаямленне з нашай сталіцай, яны пабываюць таксама ў Хатыні, на Кургане Славы і ў спартыўным комплексе «Раўбічы».

Затым Марш міру накіруецца ў Смаленск, Маскву, далей на яго шляху Забайкальск, Уладзівасток, а завершыцца ён у Ванкуверы і Нью-Йорку.

## АД'ЕЗД ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Для ўдзелу ў рабоце 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая адкрылася 17 верасня, у Нью-Йорк адбыла дэлегацыя Беларусі на чале з міністрам замежных спраў рэспублікі Пятром Краўчанкам. Нашых паўпрэдаў чакае напружаная работа ў «сусветным парламенце». У цэнтры іх намаганняў — чарнобыльская праблематыка.**

(БЕЛТА).

## ПІЦЕ, ДЗЕЦІ, МАЛАКО! АЛЕ ТОЛЬКІ НЕ З НОВАЛУКОМСКАГА ЗАВОДА

ЧАШНІКІ. У Новалукомскую раённую бальніцу быў змешчаны 81 жыхар, у тым ліку 52 дзіцяці з Чашнікаў і Новалукомля з прыкметамі атручэння. Па папярэдніх даных, атруціліся яны з «дапамогай» роднага малочнага завода, ужыванне вырабаў якога і прывяло да такога сумнага фіналу. Праца завода часова прыпынена.

## ЦІ НАКОРМІЦЬ ХАРЧОВАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА?

**МАГІЛЁЎ. (М. Шматаў).** На базе адзінаццаці дробных кафэ і сталовых у горадзе ўтворана народнае харчовае прадпрыемства.

Танней і смачней — з такім дэвізам працуюць тут. І гэта вельмі спадабалася магілёўчанам. Заработная плата рабочых на прадпрыемстве вырасла ў паўтара раза, а кошт страў тым часам зніжаны на 7 працэнтаў.

Харчовае прадпрыемства наладзіла прамы кантакт з Магілёўскім райаграпрамам. Цяпер бульба, капуста, мяса-малочныя прадукты паступаюць сюды мінаючы аптовыя базы. А гэта знізіць іх сабекошт амаль на 10 працэнтаў.

## КАМУНА ПА-ЖОДЗІНСКУ

ЖОДЗІНА. Тут створана эканамічная асацыяцыя, у якую на добраахвотных пачатках увайшлі прадпрыемствы горада і шэраг гаспадарак раёна.

Паляпшэнне забеспячэння гараджан прадуктамі харчавання, таварамі народнага ўжытку і будаўнічымі матэрыяламі — асноўная мэта асацыяцыі, якая будзе дасягнута, як лічаць яе кіраўнікі, аб'яднаннем фінансавых, матэрыяльных, харчовых і вытворчых рэсурсаў.

## ФАРМАЛІН «НЕ ПРАЙШОЎ»

**На станцыі Жлобін у цыстэрне з фармалінам, якая накіроўвалася са станцыі Ноўгарад-на-Волхаве на станцыю Барбарова ў Мазырскім раёне, была выяўлена цеча. Цыстэрну вывелі на абвадную ветку за мяжу горада, дзе небяспечны фармалін быў нейтралізаваны.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ Ў ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

**У друку паведамлялася ўжо (праўда, даволі коратка і сціпла), што беларуская дэлегацыя на чале са Старшынёй Савета Міністраў БССР В. Кебічам з афіцыяльным візітам наведала Рэспубліку Карэя.**

**Чым была выклікана гэта паездка, якія мэты яе і вынікі?**

**Аб гэтым ішла размова на прэс-канферэнцыі, якую наладзіў для журналістаў кіраўнік беларускага ўрада.**

# КАРЭЯ—БЕЛАРУСЬ:

# Адносіны могуць стаць эталонам дзелавога супрацоўніцтва

— Калі мы выйшлі з самалёта, — расказваў В. Кебіч, — нас сустракалі не толькі карэйскія, але і многія іншыя міжнародныя прадстаўнікі. І карэйскі бок выдатна разумеў, калі ўжо першы візіт на ўрадавым узроўні — то гэта сур'ёзна. І падзеі, якія адбыліся ў СССР, выклікалі да нашай дэлегацыі вялізную ўвагу.

Спачатку мы былі афіцыяльна прыняты міністрам замежных спраў Лі Сан Окам. Трэба сказаць, што пад час праводзінаў нашай дэлегацыі ў Маскве прыбыў пасол Карэі ў Савецкім Саюзе. Дарэчы, у многім дзякуючы яму, можа, і адбылася гэта сустрэча. Міністр Карэі вывучыў абстаноўку ў Беларусі, ведаў, што такое Беларусь на гэтым прамежку часу.

Праз 3 гадзіны я быў прыняты прэзідэнтам Ро Дэ У. Як першая, так і другая размова праходзіла ў цёплай і вельмі шчырай абстаноўцы. Яна працягвалася 40 мінут.

У Міністэрства замежных спраў намі прадстаўлены праект дагавора аб эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве Беларусі і Карэі. Але я хачу адзначыць адну акалічнасць: не будзе Карэя ні з якой рэспублікай падпісваць ніякіх дагавораў да таго часу, пакуль не вырашыцца будучыня Саюза, пакуль не стане дакладным і ясным, якія паўнамоцтвы будуць вырашаць рэспублікі, а якія — Саюз.

Тым не менш у час гутаркі нам параілі мець справу з буйнымі кампаніямі Карэі, маючы на ўвазе, што грошай у іх больш чым дастаткова. І што гэта так, мы пераканаліся потым, сустракаючыся з прадстаўнікамі кампаній на месцах. І яны заяўлялі аб тым, што з намі можна мець справу.

Дык вось, Ро Дэ У заявіў: «Я прыкладу ўсе намаганні да таго, каб паказаць і даказаць, што адносіны паміж Беларуссю і Карэяй мы наладзім такім чынам, каб яны былі для іншых эталонам дзелавога супрацоўніцтва».

Затым, як адзначыў В. Кебіч, была сустрэча з намеснікам прэм'ер-міністра, міністрам эканомікі і планавання Лі Сын Юнам. Адбылася прафесіянальная гутарка, у час якой было дамоўлена, у якіх галінах мяркуем супрацоўнічаць.

З многіх кампаній дэлегацыя наведала некалькі, якія з'яўляюцца першымі ў Карэі і ўваходзяць у трыццатку сусветных па тавараабароту і выпуску прадукцыі. Ва ўсякім выпадку, гадавы аб'ём іх вытворчасці складае ад 17 да 25 мільярдаў долараў. Гэта вельмі буйныя кампаніі з вялікай колькасцю працуючых.

Першая — «Хёндэ» — у асноўным сваю дзейнасць засярodзіла на выпуску аўтамабіляў. На думку кіраўніка беларускага ўрада, у Карэі не знойдзеш ніводнай аўтамашыны замежнай маркі.

Тры кампаніі выпускаюць легкавыя і грузавыя аўтамабілі. Але складваецца такое ўражанне, што трапляеш у краіну, дзе ездзяць аўтамабілі розных краін. Усё таму, што такая вялікая разнастайнасць машын. Адна кампанія выпускае, відаць, 20 марак розных аўтамабіляў. Усяго ж у Паўднёвай Карэі выпускаецца каля 70 мільёнаў аўтамабіляў у год.

«Хёндэ», «Голд Стар», «Дэ У», «Самсунг» і «Сань Ёнг» з'яўляюцца тут самымі буйнымі кампаніямі. І асаблівасць іх заключаецца ў тым, што ўсе яны без выключэння, акрамя аўтамабіляў, выпускаюць халадзільнікі, тэлевізары, тавары народнага спажывання, мікрахвалевыя печы, бытавыя электрапрыборы, відэааўдыётэхніку....

Скажам, кампанія «Сань Ёнг». На ёй прыкладна пяць тысяч працуючых. Умовы работы нібыта спрыяльныя, добрыя, але інтэнсіўнасць працы настолькі высокая, нялёгкая, што цяжка сабе нават уявіць. За дзень тут выпускаюць 25 тысяч відэамагнітафонаў. Паўсюдна стаяць і працуюць жанчыны. Рабочы дзень — 10 гадзін: 8 — асноўны час, 2 — звышурочны. За звышурочны — аплата ў паўтара раза большая. На пытанне, чаму б не пасадзіць іх (жанчын) на крэслы, якія круцяцца, дырэктар кампаніі адказаў прама: «Калі яны сядзяць, прадукцыйнасць працы зніжаецца роўна на 10 працэнтаў. Яны павінны стаяць».

У час візіту дасягнута дамоўленасць, што ў бліжэйшы час да нас прыедуць іх спецыялісты. Паводле падлікаў, будзе больш ста чалавек. Гэта група павінна правесці аналіз работы нашага «Гомсельмаша». І, напэўна, мы паспрабуем паўтарыць тут варыянт падобнай арганізацыі вытворчасці адзін да аднаго.

З кампаніяй «Дэ У» дамовіліся аб тым, што на працягу трох месяцаў (і яны лічаць гэта за гонар і тым самым хочуць даказаць, што дзелавое супрацоўніцтва паміж намі можа існаваць) наладзіць у нас выпуск мікрахвалевых печаў.

Кампанія «Голд Стар» акажа нам садзеянне ў выпуску «тонкай хіміі» — упаковачных матэрыялаў для харчовых прадуктаў, цэменту, угнаенняў і іншай сыпучай прадукцыі, дапаможа поўнасцю рэканструяваць устарэлыя цэхі аб'яднання «Гарызонт» для таго, каб наладзіць выпуск тэлевізійных трубак (а яны і пастаўляюць нам гэтыя трубкі) непасрэдна ў нас на заводзе, мадэрнізаваць наш тэлевізар, каб ён адпавядаў сусветным стандартам.

Вырашана правесці рэканструкцыю двух нашых нафтаперапрацоўчых заводаў з тым, каб павялічыць выхад светлых нафтапрадуктаў з айчынных 55 працэнтаў, што мы маем сёння, да сусветных 85 працэнтаў. Гэта вельмі буйны праект, але карэйцы гатовы яго ажыццявіць.

Затым В. Кебіч адказаў на пытанні журналістаў.

**— Ці ёсць напрацоўкі для заключэння дагавораў з іншымі краінамі? Напрыклад, у Еўропе?**

— У нас у Еўропе складваюцца самыя добрыя знешнеэканамічныя адносіны, перш за ўсё з Германіяй. Мы з Шушкевічам падпісалі цэлы пакет дакументаў аб эканамічным супрацоўніцтве, які пайшоў туды.

Далей ідзе Аўстрыя. Як вы, напэўна, ведаеце, Аўстрыя адна з першых краін, якая прадаставіла нам бескарыслівую «чарнобыльскую» дапамогу па дзяржаўнай лініі на суму 5 мільёнаў долараў. Гэта пасля Японіі, кампаніі якой прадаставілі 8 мільёнаў долараў, — другая краіна. Затым ідуць Італія, Іспанія.

Што датычыць Польшчы, то тут асаблівая размова: вельмі шмат праблем і складанасцей. Але ў будучым нам з Польшчай трэба мець цесныя эканамічныя адносіны, як з суседам.

**— Ці ёсць у нашага ўрада прававыя ініцыятывы, каб даць поўную гарантыю замежным інвестытарам на тэрыторыі рэспублікі?**

— Мяркуючы па вопыту Еўропы, мы, здаецца, асноўныя дакументы маем, але яны не даведзены да канца. Яшчэ патрэбна некалькі законаў па гэтаму пытанню. Я буду шчыры і не пабаюся сказаць, што сёння дзеянні некаторых дэпутатаў-гуманітарыяў накіраваны не на падтрымку нашых ініцыятыў у знешнеэканамічнай дзейнасці. Апошнія пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета паказваюць, што нам спрабуюць уставіць палкі ў колы.

**— Ці лічыце вы, што чалавечы фактар будзе ўплываць на павышэнне прадукцыйнасці працы?**

— Прадукцыйнасць працы перш за ўсё павінна павышацца за кошт тэхналогій, а не за кошт інтэнсіўнасці працы. Канешне, мы інтэнсіўнасць працы, якую я назіраў у Карэі, укараніць у нас адзін да аднаго не зможам.

**— Ці будуць у нас якія-небудзь прадуктовыя закупкі, скажам, у Карэі?**

— Не.

**— Ці будуць прыватныя фірмы ў Беларусі выходзіць на ўзровень дагавораў без згоды ўрада Карэі?**

— Так. Я заяўляў прэзідэнту Ро Дэ У, што вось сёння наш урад павінен весці перагаворы з фірмамі. Але гэта зусім не азначае, што мы будзем накладваць нейкае вета на дзейнасць фірм. Яны свабодныя ў сваёй дзейнасці, яны могуць заключаць любыя пагадненні, уступаць у любыя асацыяцыі, іншыя аб'яднанні. Дзейнасць урада накіравана на адно — падатковая палітыка і падатковыя скідкі па выпуску прадукцыі, якая так неабходна Беларусі. Я замежным фірмам і інвестытарам заявіў, што да пяці гадоў, у залежнасці ад таго, якую яны будуць прадукцыю выпускаць, будуць вызваляцца поўнасцю ад уплаты падатку. Гэта ў іх выклікала вялізную цікавасць. Гэта той эканамічны рычаг, якім мы можам зацікавіць інвестытараў іншых дзяржаў.

Яшчэ я хачу дадаць, што ніколі ад візіту нельга чакаць імгненнага капіталу. Аб гэтым павінны ведаць усе, і нельга адразу рабіць паспешлівых высноў.

На прэс-канферэнцыі выступіў таксама міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка.

**І. БРАЛКА,**
**кар. «Звязды».**

# Дапамога Японіі ахвярам Чарнобыля

У лютым 1991 г. адбыўся першы за ўсю гісторыю Савецкай Беларусі візіт афіцыяльнай урадавай дэлегацыі ў Японію. Японскаму боку былі перададзены канкрэтныя прапановы па развіццю гандлёва-эканамічных сувязей з БССР.

У ходзе меўшых месца сустрэч кіраўніка дэлегацыі БССР Старшыні Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіча з японскай грамадскасцю, прадстаўнікамі дзелавых колаў і інтэлігенцыі вялікая ўвага была ўдзелена інфармацыі аб маштабах і выніках чарнобыльскай трагедыі для рэспублікі.

У час вечара-сустрэчы з прадстаўнікамі г. Акіта беларускай дэлегацыі былі ўручаны дакументы на атрыманне буйной партыі медыкаментаў і абсталявання прыкладна на 200 тыс. долараў.

Міністру аховы здароўя Японіі пану С. Сімодзе былі перададзены спісы абсталявання і медыцынскіх прэпаратаў, неабходных Беларусі. Міністр інфармаваў беларускую дэлегацыю аб тым, што Японія перадала праз сістэму САЗ 20 млн. долараў для аказання дапамогі пацярпеўшым ад Чарнобыля і мае намер гэтую лінію працягваць і далей.

У ходзе сустрэчы з буйнейшым не толькі ў Японіі, але і ў свеце дабрачынным фондам — Фонд аховы здароўя Сасакавы — дэлегацыі БССР былі перададзены дакументы на права атрымання 4-х перасоўных дыягнастычных лабараторый агульным коштам каля 3,5 млн. долараў. Старшыня фонду пан Рэкці Сасакава інфармаваў аб тым, што Фонд у канцы 1990 г. распрацаваў і прафінансаваў у аб'ёме 5 млрд. іен (прыблізна 38 млн. долараў ЗША) мэтавую праграму чарнобыльскай дапамогі ў галіне медыцыны, разлічаную на 5 гадоў (да 1995 г.). Гэта не толькі самая буйная і прафесіянальна падрыхтаваная, але і аператыўна рэалізуемая праграма тэрміновай і бясплатнай замежнай дапамогі.

Кіраўніцтва горада Сэндай заявіла аб перадачы гораду-пабраціму Мінску партыі медыцынскага абсталявання коштам 400 тысяч долараў ЗША (дыягнастычная ультрагукавая ўстаноўка, набор фібраскопаў і каланаскопаў і г. д.). Унесена прапанова аб запрашэнні мінскіх медыкаў на стажыроўку ў Сэндай.

З 9 па 15 чэрвеня ў г. Мінску знаходзілася дэлегацыя з 11 бізнесменаў прэфектуры Акіта, якая прывезла з сабой гуманітарную дапамогу (350 кг): малочны парашок для дзяцей, сістэмы пераліванія крыві, венаглабулін-1 з растваральнікам, шоўны матэрыял і інш. Гэтая гуманітарная дапамога паступіла ў Рэспубліканскі дзіцячы гематалагічны цэнтр, ДХЦ, 2-ю, 3-ю і 4-ю дзіцячыя бальніцы, аддзяленне дзіцячай хірургіі 9-й паліклінікі, 7-ю клінічную бальніцу, Гомельскую абласную дзіцячую бальніцу.

**В. РАДКЕВІЧ.**
**старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па знешніх эканамічных сувязях.**

# ФОНД САДЗЕЙНІЧАННЯ ЗАНЯТАСЦІ

**У рэспубліканскім друку паведамлялася ўжо аб рашэнні ўрада БССР стварыць фонд садзейнічання занятасці, якое з'яўляецца адной з важных мер, накіраваных на змякчэнне сацыяльных вынікаў беспрацоўя, што пагражае хутка ператварыцца ў рэальную перспектыву для многіх людзей. Улічваючы вялікую цікавасць да гэтай праблемы, па просьбе ўпраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Савета Міністраў БССР на пытанні аб тым, чым будзе займацца новая арганізацыя, адказвае дырэктар Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва П. В. ЛОГІНАЎ.**

**— Пётр Васільевіч, у сувязі з чым створаны фонд садзейнічання занятасці і якое яго месца ў структуры службаў, закліканых вырашаць задачы працаўладкавання насельніцтва?**

— Галоўная прычына стварэння фонду — неабходнасць матэрыяльна - тэхнічнага забеспячэння дзяржаўнай палітыкі ў галіне занятасці. Сёння ўпершыню за шэсць дзесяцігоддзяў, што мінулі з таго часу, як у краіне была закрыта апошняя біржа працы, мы сутыкнуліся з такой нязвыклай для нас сацыяльнай з'явай, як беспрацоўе. Натуральна, яму трэба процідзейнічаць, шукаць ахоўныя механізмы і рычагі, што патрабуе значных сродкаў і ўкладанняў. Фінансаванне гэтых мерапрыемстваў і будзе ажыццяўляць фонд. Што ж датычыцца яго ведамаснай падпарадкаванасці, дык ён уваходзіць у склад дзяржаўнай службы занятасці Беларускай ССР.

**— Скажыце, а з якіх крыніц фарміруецца фонд?**

— Галоўным чынам, за кошт абавязковых штомесячных адлічэнняў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання. Выключэнне зроблена толькі для таварыства інвалідаў, якое вызваляецца ад такіх узносаў. Акрамя таго, сюды будуць накіроўвацца сродкі рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, што выдзяляюцца пры неабходнасці па рашэннях Савета Міністраў БССР і мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, а таксама мэтавыя фінансавыя адлічэнні прадпрыемстваў і ўстаноў для забеспячэння працаўладкавання інвалідаў і іншых грамадзян, няздольных на роўных умовах канкурыраваць на рынку працы. Важным каналам папаўнення фонду павінны стаць добраахвотныя ўзносы савецкіх і замежных прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый і грамадзян, даходы ад камерцыйнай дзейнасці, паступленні ў выглядзе каштоўных металаў, камянёў і да т. п., узносаў у замежнай валюце, нерухомай і іншай маёмасці. Цяпер Мінфін, Мінюст БССР і Нацыянальны банк рэспублікі вызначаюць парадак прыёму гэтых каштоўнасцей у Дзяржаўны фонд занятасці.

**— Ці існуюць якія-небудзь нарматывы адлічэнняў у фонд занятасці ці гэтыя пытанні працоўныя калектывы маюць права вырашаць самастойна?**

— Такія нарматывы ёсць. У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета БССР ад 5 чэрвеня 1991 года для прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый яны ўстаноўлены ў размеры 1 працэнта сродкаў на аплату працы з унясеннем гэтых расходаў у сабекошт прадукцыі, работ і паслуг.

**— А на якія мэты прадугледжваецца выкарыстоўваць сродкі, мяркуючы па ўсім, немалыя, якія будуць паступаць у фонд?**

— Большай сваёй часткай яны будуць накіраваны на фінансаванне і рэалізацыю праграм занятасці, уключаючы аказанне дапамогі незанятаму насельніцтву, пасрэдніцтва ў працаўладкаванні, ажыццяўленне мерапрыемстваў па прафарыентацыі, прафесіянальнай падрыхтоўцы, павышэнню кваліфікацыі і перападрыхтоўцы вызваляемых работнікаў і незанятых грамадзян, выплату дапамогі па беспрацоўю, арганізацыю аплачваемых грамадскіх работ, утрыманне дзяржаўнай службы занятасці. Частка сродкаў пойдзе на фарміраванне і развіццё цэнтраў сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі для сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян, стварэнне дадатковых рабочых месц, спецыялізаваных вытворчасцей для выкарыстання працы інвалідаў, асоб перадпенсіённага ўзросту, жанчын, якія маюць дзяцей, моладзі, на развіццё прадпрымальніцкай дзейнасці.

**— Ці будуць у фонду валютныя сродкі?**

— Так, як я адзначыў, такая магчымасць прадугледжана. Рэспубліканскаму, абласным і Мінскаму гарадскому цэнтрам занятасці насельніцтва дазволена адкрыць рахункі ў замежнай валюце для залічэння на іх сродкаў, што паступаюць у Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці Беларускай ССР ад камерцыйнай дзейнасці службаў занятасці, савецкіх і замежных арганізацый і грамадзян. Што датычыць расходавання валюты, дык мы плануем накіраваць яе перш за ўсё на развіццё матэрыяльнай базы нашых арганізацый, набыццё сучаснай камп'ютэрнай і арганізацыйнай тэхнікі, на стажыроўку спецыялістаў за мяжой.

**— Вы былі ў ліку тых, хто ўдзельнічаў у распрацоўцы палажэнняў аб Дзяржаўнай службе занятасці і аб фондзе занятасці. Ці ўлічваўся пры гэтым вопыт замежных краін?**

— Вядома. Рыхтуючы гэтыя дакументы, мы ўлічвалі рэкамендацыі Міжнароднай Арганізацыі Працы і прыдатныя падыходы замежных службаў занятасці, і ў першую чаргу ФРГ і Францыі.

**— Сёння шмат пішацца пра беспрацоўе, называюцца трывожныя лічбы... Ваша ацэнка гэтай з'явы?**

— Сапраўды, у друку цяпер нярэдка прыводзяцца даныя аб беспрацоўных, што выклікаюць у людзей трывогу, даюцца трывожныя прагнозы, але яны могуць так і застацца на паперы. Бо многае будзе залежаць ад таго, як пойдуць прыватызацыя, структурная перабудова народнай гаспадаркі, прадпрымальніцтва, малы бізнес і іншыя формы самазанятасці. А наконт беспрацоўя... Я б не даваў крайніх ацэнак гэтай з'яве. Па сутнасці справы, беспрацоўе — гэта плаціна для нармальнага ўзроўню прадукцыйных сіл, рэзерву рабочай сілы на выпадак перабудовы народнагаспадарчага комплексу, падтрымання дысцыпліны працы і вытворчасці. Для кожнага канкрэтнага чалавека — гэта, натуральна, негатыўная з'ява, якая вядзе не толькі да асабістай бяды, але і ў цэлым да сацыяльнага напружання ў грамадстве. Рынак працы прымусіць канкурыраваць усіх, і ў гэтай сітуацыі цану будуць перш за ўсё мець «залатыя рукі» і высокая кваліфікацыя.

**— З моманту ўступлення ў сілу Закона «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР» у службы занятасці звярнулася і зарэгістравана ў іх у якасці тых, хто шукае работу, звыш 20 тысяч чалавек. Лічба нагул немалая. Да якой катэгорыі насельніцтва належаць гэтыя людзі?**

— Аснову складаюць звольненыя па ўласнаму жаданню, вызваленыя з прычыны скарачэння штатаў, ліквідацыі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, выпускнікі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, атрымаўшыя даведку аб свабодным працаўладкаванні, а таксама грамадзяне, якія доўгі час не працавалі.

**— Але няўжо ў службе занятасці няма інфармацыі аб наяўнасці вакансій і свабодных рабочых месц для працаўладкавання тых, хто прыйшоў да вас за дапамогай?**

— Гэта вельмі складанае пытанне. Здавалася б, на першы погляд, яго лёгка вырашыць — наша служба сёння ў цэлым па рэспубліцы мае 82.400 свабодных месц. Аднак з гэтай колькасці толькі 8,1 працэнта вакансій для працаўладкавання інжынерна - тэхнічных работнікаў і служачых, а большая частка свабодных рабочых месц— непрэстыжныя, працаёмкія і нізкааплачваемыя пасады. Напрыклад, асобныя будаўнічыя спецыяльнасці, станочнікі, слесары, швачкі-матарысткі, вадзіцелі і да т. п. Адбіваецца тут таксама і дэмаграфічны фактар, адсутнасць свабоднага жылля, прапіскі для пераразмеркавання працоўных рэсурсаў і іншыя праблемы.

**— А ці ўсе грамадзяне, атрымаўшыя статус беспрацоўнага, будуць мець права на атрыманне дапамогі па беспрацоўю?**

— Права на дапамогу па беспрацоўю прадастаўляецца грамадзянам, якія прызнаны беспрацоўнымі і не маюць законных крыніц даходу. Але звольненым з ранейшага месца работы па ўласнаму жаданню без уважлівых прычын і звольненым за парушэнне працоўнай дысцыпліны і іншыя дзеянні, а таксама страціўшым крыніцу даходу ў выніку незаконных дзеянняў дапамога па беспрацоўю не назначаецца. Наконт дапамогі скажу, што памер яе беспрацоўным будзе назначацца ў залежнасці ад працоўнага стажу, зарплаты на апошнім месцы работы і шэрагу іншых фактараў. Тыя, каго цікавяць звязаныя з гэтым канкрэтныя пытанні, могуць звярнуцца ў службы занятасці. Дарэчы, цяпер яны створаны ўжо ў кожным горадзе, раёне нашай рэспублікі.

**— Як гаворыцца, дапамогу па беспрацоўю таксама трэба зарабіць. Пётр Васільевіч, у пачатку нашай размовы вы сказалі, што для аказання дапамогі беспрацоўным любая арганізацыя ці грамадзяне могуць унесці сродкі на рахунак Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці...**

— Наш рахунак № 699601 у Галоўным упраўленні Нацыянальнага банка па гораду Мінску. Да сказанага дадам, што абласныя, гарадскія і раённыя аддзяленні маюць свае рахункі па месцы іх тэрытарыяльнага знаходжання.

**Гутарыў В. СКУРАТОВІЧ.**



**2.350 тон дыетычнага мяса качкі пастаўляе штогод Магілёўскаму і Бабруйскаму мясакамбінатам адна з буйнейшых у рэспубліцы Круглянская птушкафабрыка. Нягледзячы на цяперашнюю эканамічную нестабільнасць, прадпрыемства не знізіла свае паказчыкі ў параўнанні з мінулагоднімі. Пакуль няма тут праблем з атрыманнем кармоў. Праўда, сталі яны прыкметна горшай якасці. Каб не адбілася гэта на прадукцыі, пабудавалі свой цэх па дапрацоўцы кармоў.**

**Нягледзячы на нялёгкую пры напольным утрыманні птушкі ручную працу, не існуе на фабрыцы і праблемы кадраў. Дзякуючы надзейнай сацыяльнай абароне птушкаводаў, добрай аплаце працы, сюды імкнуцца ўладкавацца і жыхары райцэнтра Круглае.**

**НА ЗДЫМКУ: восем тысяч качак пад наглядам птушніцы Валянціны БАБКОВАЙ.**

**Фота І. ЮДАША (БЕЛТА).**

# 2. «Бог дасць дзень, Бог дасць і ежу»

## Правінцыя, як яна ёсць

ДАЎНО заўважана: у неспакойныя часы (а калькі іх у нас было — спакойных?) лягчэй пражыць у маленькім гарадку ці пасёлку, як наш К. Па-першае, бліжэй да зямлі; па-другое, ціск партыйна-дзяржаўнай машыны, вельмі цяжкі ў мегаполісах, да правінцыі даходзіць у распыленым, аслабленым варыянце. Практычна гэта значыць, што начальнік можа жыць за суседнім плотам, з ім, калі і ў госці не запрашае, можна проста перакінуцца чалавечым словам.

У правінцыі на ўсё глядзяць прасцей і больш рэальна. У тым ліку на такое ключавое пытанне, як хлеб надзённы. Паспрабуем разабрацца, як вырашаюць яго жыхары К.

Матэрыяльнае жыццё ў пасёлку верціцца вакол некалькіх заводзікаў, сельгастэхнікі, сельгасхіміі, чыгуначнай станцыі, хлебапрыёмнага пункта, двух калгасаў і камбіната будматэрыялаў. Пэўная частка людзей ездзіць у абласны цэнтр, балазе, ён недалёка. Словам, уладкавацца ёсць дзе, праўда, чалавек — істота нявытрыманая, шукае дзе лепш. Па аналогіі з рыбай, якой больш падабаецца глыбіня. Таму існуе мясцовы, вельмі дакладны рэйтынг прадпрыемстваў. Тут два галоўныя крытэрыі: магчымасць зарабіць і магчымасць украсці, няхай прабачаць землякі.

Скажам, у «хімію» ідуць у асноўным маладыя хлопцы — пад рукой транспарт, заробак даволі нядрэнны. Меншай папулярнасцю карыстаюцца месцы слесара ці токара ў сельгастэхніцы. У прынцыпе пражыць можна ўсюды, нават на такой экзатычнай пасадзе, як інжынер па двары (не спяшайцеся рагатаць, ёсць і такая).

Зразумела, лягчэй набыць лес, будматэрыялы, калі вы працуеце ў будаўнічай арганізацыі. Пры вядомых цярплівасці і спрытнасці можна пабудаваць хлеў, лазню, нават дом, «заплаціўшы» пры гэтым дзесятак-паўтара бутэлек самагону.

І гэта не крадзеж. Гэта скінулі б раней. Сістэма не ўлічвала індывідуальных запатрабаванняў і дзяліла між намі, вінцікамі, пароўну і памалу. А індывідуальнасць, яна заўсёды сваё возьме. З дапамогай іншай індывідуальнасці.

Але ўсяго гэтага можна дабіцца, працуючы і ў іншым месцы. Ці можа, скажам, адмовіць сваяк сваяку? Асабіста я пра такія выпадкі не ведаю. І, шчыра кажучы, добра, што іх няма. Былі б — не пратрымалася б Савецкая ўлада 74 гады — больш справядлівае пераразмеркаванне знізу. Як правільна заўважыў Леанід Ільіч: «Ніхто ў нас на зарплату не жыве». Дадам: таму што нельга. Сам узровень зарплаты прымушаў круціцца, браць, на разуменне «нізоў», лішняе. Што ўсё роўна згіне. Як тут быць з маральнасцю — не ведаю. У той жа час, як быць з маральнасцю людзей, якія асуджалі на сябе падобных на жабрацкае існаванне?

...«Кожнаму гараджаніну — па шэсць сотак» — так, здаецца, гучаў чарговы заклік правадыроў. А пасялковыя, яны хто? Гараджане? Не. Вяскоўцы? Таксама не. Але свае 6 — 8 сотак пры хаце маюць амаль усе. З іх — бульба, агуркі, памідоры і пятрушка, клубніцы і яблыкі. Праўда, бульбы асабліва многа не возьмеш, так, летам толькі есці. Значыць, патрэбен яшчэ ўчастак, пажадана ў полі (калгасным). У гараджаніна тут бы маглі ўзнікнуць праблемы, мясцовыя ж ведаюць адзін аднаго, асабліва добра — калгаснага брыгадзіра — таго, ад каго залежыць многае. Паклонішся бутэлькай-другой — адмерае не 10, а 15 сотак, і не ў бур'янах, а на добрым месцы. Патрэбен гной — калі ласка, дамовіцца можна. І ведаць будуць — ты ды я, больш ніхто. А і даведаюцца: каму якая справа, усім жыць трэба.

Дрэнна з насеннем. З году ў год садзяць бульбу немаведама якой рэпрадукцыі і сорту. Дзе маглі б сабраць 80 мяшкоў (і здаць палавіну нарыхтоўшчыку), збіраюць 20 — і ўсё сабе. Ну, і свайму кабану. Правадырам проста: кінуў кліч — і з плеч далоў. А людзям застаецца ўсё астатняе, а галоўнае — прабачце за гучныя словы — накарміць сябе і дзяржаву.

Сёлета, трэба думаць, цэны на бульбу восенню падскочаць. Не кажу за зіму і вясну. Яе проста мала, бульбы. Пасёлак К. з прылеглымі вёскамі галадаць не будзе. А вось горад... Калі хто з пасялковых і паедзе са сваёй бульбай на рынак, то, паважаныя гараджане, ён з вас 2 — 3 шкуры здзярэ, не сумнявайцеся. І правільна зробіць. Вясна, лета і восень, праведзеныя ў клопатах пошукаў то таго, то другога, будуць стаяць перад вачамі. Я не збіраюся выдаваць нейкія прароцтвы, проста канстатую рэальнасць. А таксама папярэджваю тых, хто на базары дзярэ глотку: «Спекулянты!». Ты, дарагі праведнік, пражыві хоць адно лета адзін на адзін са сваёй бульбай, падлічы колькасць «прастаўленай» гарэлкі і заплочаных грошай, а тады, зноў прабачце, раскрывай хайла...

Апошнія гадоў дзесяць у пасёлку развіваецца новы від «бізнесу» — продаж клубніц. Калі паставіць справу, нават з маленькага, на паўсоткі ўчастка, можна мець нядрэнны прыбытак. Я ведаю, чым захапіліся землякі: клубніцы, вядома, патрабуюць вялікай папярэдняй работы, але, калі сезон, то збірай і адразу — на рынак. Але, але... І тут усё на волю лёсу. Самымі рознымі шляхамі набываюцца саджанцы, ніякага сортаабнаўлення, на ўвесь пасёлак 2 — 3 сарты, якія хутка выраджаюцца і няма салодкай ягады, адна кісляціна...

Некалі наша мясцовасць славілася цыбуляй. Асабіста бачыў даведнік па агародніцтву, дзе прадстаўлены наш, мясцовы сорт, названы імем пасёлка. У нядобрыя часы гэта было, калі «канчаткова» выкаранялі прыватную ўласнасць, што на лёсе цыбулі адбілася трагічна. Яе перасталі вырошчваць на продаж.

І мне не церпіцца зрабіць яшчэ адзін вывад, магчыма, некалькі забягаючы наперад: народ з усіх сіл імкнуўся сябе накарміць — яму з усіх сіл гэтага не давалі зрабіць.

Асаблівы боль — яблыкі. Пісана-перапісана пра іх, рука больш не падымаецца. Сам, дурань, пісаў, наіўна спадзеючыся на станоўчае вырашэнне праблемы. А вось прыехаў сёлета — і зноў усё тое ж.

Мясцовы нарыхтоўчы пункт мае невялікі цэх па перапрацоўцы яблыкаў. Каб удала трапіць, трэба з вечара збіраць яблыкі, каб як раней займаць чаргу. Пад канец жніўня цэх затаварыўся, прыёму няма. Што рабіць? Назіраць, як дыван гнілых яблыкаў у садзе шырыцца з кожным днём? Сёлета па ўсёй Беларусі яблыкаў мала, — і тыя няма каму давесці да ладу. Калі вы ўжо такія пакрыўджаныя Богам і не можаце прадаць тое, што вырасцілі, то няўжо нікому сок не патрэбен? Кампоты, павідла, пюрэ?

Летась важныя таварышы з Белкаапсаюза пералічвалі мне тысячу і адну прычыну, па якіх яблыкі гніюць на сядзібах. Нялёжкія, кажуць. Ну вось, рылам ім не выйшлі. Што яшчэ? Слабыя магутнасці. Дык яны слабыя ўсе 74 гады. І далей будуць слабыя, калі шукаць прычыны, а не працаваць. А лёжкія — нялёжкія... Іншых няма.

...Не, хоць забі, а ніколі не паверу, што нашаму народу бракуе прадпрымальнасці і ініцыятыўнасці. Хто так думае, той не жыў у пасёлку К. і на яго падобных. Але хоць бы ўлезці ў шкуру чалавека, які літаральна (а не ў выглядзе зарплаты) корміць сябе і сваіх дзяцей — гэта не пашкодзіла б. У горадзе, хоць сінюю, але ўхопіш курыцу. Тут яе трэба спачатку выгадаваць. У горадзе, хоць дробную, але бульбу купіш. Тут яе трэба спачатку вырасціць. У горадзе, хоць польскі, хоць дарагі, а яблык купіш. Тут яго трэба спачатку атрымаць. Пералічваць далей? Згодзен, не варта. І з усімі гэтымі курамі, кабанамі, яблыкамі і клубніцамі пасялковы гэты «спекулянт», «куркуль», «прыватнік» (ну, хто яшчэ дадасць, эрудыты?) застаецца, як гавораць французы, тэт-а-тэт. Ніхто яму, апрача яго самога не дапаможа. А вы кажаце — прадпрымальнасць згубілі. І хацелі б — не атрымаецца. Жыццё прымушае. І такія таленты адкрываюцца—хоць зараз ва ўпраўленне банка ці на біржу — купіць, прадаць. Толькі навучыце. А што за спецыялісты: заатэхнікі, аграномы, садаводы, агароднікі! Золата! Толькі ніхто яго пакуль што не здабывае.

Ат... Бог дасць дзень, Бог дасць ежу. Не намі сказана і сказана справядліва.

**С. ШАЎЦОЎ,**
**спец. кар. «Звязды».**

